Год I. Пятніца, 31 сьнежня (дзекабра) 1920 г. № 2.

# НАША ДУМКА

Палітычная, экономічная і літэратурная тыднёвая газэта

ПАДПІСКА: на 3 месяцы 60 марак або 5 ф. мукі. | Цана асоб. нумэру 5 марак. | Адрэс: Вільня, Вострабрамская 5 (Пасаж).

## З Новым Годам!

З Новым Годам я вітаю
Просты, бедны, люд мой родны
І найперш яму жадаю,
Каб ён стаўся ўжо свабодны!
Каб ад сну як прабудзіўся,
Сьмела голас свой падаў-бы
І каб болей ня нудзіўся,
А вясёла запяяў бы!
Каб з чужацкаю апекай
Край мой родны разьвітаўся
І каб з ёю ўжо навекі,
Ен навекі не спаткаўся!

Станіслаў Станкевіч.

* * *

— З Новым Годам, з новым шчасьцем! —
Чуем гэта кожны год.
Што-ж ты меў і што ты бачыў
Ад тых слоў, о мой народ?
—З Новым Годам, новым шчасьцем!—
Заставалася ў славах,
А „тутэйшы“ заставаўся
У горы, жалю і сьлязах.
— З Новым Годам, новым шчасьцем...
Што-ж? Мо‘ будзе гэты раз
Новы Год ужо запраўды
Новым шчасьцем дзеля нас.

Ігнат Дварчанін.



## ВІЛЕНСКІ СОЙМ, ПЛЕБІСЦЫТ і БЕЛАРУСЫ.

Як ведама нашым чытачом, Тымчасовая Урадуючая Камісія Сярэдняй Літвы, бяручы ўладу над нашым Віленскім краем у свае рукі, абвесьціла скліканьне ў Вільні Сойму.

Адначасова Ліга Народаў, вырашаючы пытаньне аб прыналежнасьці спорных тэрыторый Віленшчыны і Горадзеншчыны да Польшчы ці Літвы, пастанавіла зрабіць на гэтых спорных тэрыторыях плебісцыт, каб народ мог высказацца, куды ён хоча належыць, ці да Літвы, ці да Польшчы.

Расейскія бальшавікі, пазіраючы на ход спркі з-за Віленшчыны, у канцы канцоў запратэставалі проціў прысутнасьці тут войскаў ген. Жэлігоўскага і проціў намярэньня Лігі Народаў зрабіць плебісцыт. Значыцца, бальшавікі і проціў плебісцыту і проціў Віленскага Сойму.

Урад Літоўскай рэспублікі выказаўся проціў плебісцыту на тэрыторыі Віленшчыны і Горадзеншчыны. Ен стаіць на грунце ўмовы Літвы з Расеяй, аддаўшай спорныя часьціны Віленшчыны і Горадзеншчыны Ліцьве. Адносіны Літоўскага Ураду да Тымчасовай Камісіі Сярэдняй Літвы і да яе намярэньня склікаць у Вільні Сойм могуць быць названы варожымі. Генарала Жэлігоўскага і Тымчасовую Камісію Літоўскі Урад лічыць мяцежнікамі і Віленскі Сойм—установай незаконнай.

Польскі Урад афіцыяльна прызнаў генарала Жэлігоўскага вышаўшым з паслушэнства Галоўнаму Польскаму Камандаваньню, значыцца,—мяцежнікам, але на яго працу глядзіць прыхільна, бо яна згаджаецца з мэтамі Польскага гаспадарства, жадаючага далучэньня Віленшчыны і Горадзеншчыны да Польшчы. Польскі Урад у прынцыпе згодзіўся на плебісцыт у Сярэдняй Ліцьве, лічучы, аднак, найлепшай формай плебісцыту Сойм, які хоча склікаць у Вільні Тымчасовая Камісія. З усяго відаць, што пытаньне аб нашым краі страшэнна запуталася і як яно ў канцы канцоў будзе вырашана, ня можна яшчэ з пэўнасьцю сказаць.

Горш за усе, што пытаньне аб той ці іншай прыналежнасьці нашага краю вырашаецца бяз голасу ўсіх зацікаўленых краёвых нацыянальнасьцяў.

Ліга Народаў гаворыць аб плебісцыту... Але *плебісцыт мае вырашыць толькі такое пытаньне: да Польшчы ці да Літвы.* Беларусь, як трэцяя старана, штучна выключаецца з ліку спаршчыкаў. Тым самым свабодны голас беларусаў на плебісцыту ня будзе ўчуты. Беларус будзе змушан ці устрымацца ад падачы свайго голасу, ці падаваць яго за Літву або Польшу, а гэта ужо ёсьць парушэньне самых сьвятых правоў беларускага народу, жадаючага быць незалежным і жыць у сваёй незалежнай бацькаўшчыне. Далей... *На якой тэрыторыі будзе адбывацца плебісцыт?* Калі толькі на той, катораяя знаходзіцца пад уладай Тымчасовай Камісіі, то ня можа быць і рэчы аб учасьцю беларусаў, бо для беларусаў зусім ясна, што тэрыторыя Сярэдняй Літвы штучна выразана з жывога цела Беларусі і Літвы. Праўда, на тэрыторыі Сярэдняй Літвы пражываюць у досыць значным ліку спольшчаныя беларусы і ліцьвіны, ёсьць таксама і палякі, каторыя, мы ведаем, цягнуць і будуць цягнуць да Польшчы. Аднак мы павінны адзначыць, што польскіх і спольшчаных элемэнтоў на тэрыторыі Сярэдняй Літвы зусім ня так многа,

Мы згаджаемся, што працэнт людзей, лічучых сябе палякамі і пражываючых у Сярэдняй Ліцьве ў сучасны мамэнт большы, як гэта паказана ў кніжцы кракаўскіх прафэсароў. Прычынай таму зьяўляецца выхад з бацькаўшчыны ў Расею жыхароў нашага краю, глаўным чынам — беларусаў, пад час нямецкага наступленьня. Да гэтай пары мала хто вярнуўся назад у свой край, бо немагчыма было вярнуцца. Дык няхай-жа вернуцца бежанцы, няхай і іх голас, голас мучальнікаў не па сваёй віне, ня будзе адкінуты.

Мы не баімося вынікаў плебісцыту, або выбараў у Сойм, навет пры сучасных варунках, пры якіх прапорцыянальныя адносіны нацыянальнасьцяў нашага краю зьмяніліся, д якуючы выхаду бежанцаў, не на нашу карысьць. Аднак мы ня можам усе-ж згадзіцца ні на якія плебісцыты ні на выбары у Сойм, глаўным чынам, з-за таго, што 1) не вярнуліся яшчэ з Расеі нашыя бежанцы-беларусы; 2) тэрыторыя (правізарычная) для плебісцыту, або выбараў у Сойм, зусім штучна выкраена з абшараў беларускіх і літоўскіх; 3) плебісцыт, загаданы Лігай Народаў, будзе вырашаць пытаньне аб далучэньні ці да Польшчы ці да Літвы, абмінаючы трэцюю старану — Беларусь, маючую, як мы ў тым пэўны, больш правоў на спорную тэрыторыю, ніж іншыя прэтэндэнты; 4) Сойм у Вільні пры сучасных варунках і на асновах, на якіх ён склікаецца, не выкажа голасу ўсіх нацыянальнасьцяў краю, што зусім ясна стала пасьля таго, як кіруючыя Віленскія арганізацыі беларусаў, жыдоў і ліцьвіноў, як то: Нацыянальны Беларускі Камітэт, Часовы Літоўскі Камітэт і Жыдоўская Гміна адмовіліся ад выбараў у Сойм.

Ітак, ні Сойм ні плебісцыт, пры тых варунках, у якіх яны маюць намярэньне адбыцца, і на тых асновах, каторыя заложаны ў іх, ня могуць быць прыняты беларусамі.

Нам здаецца, што і плебісцыт і сойм у Вільні мелі-б пад сабой хоць якую-небудзь падставу толькі тады, каб 1) тэрыторыя, на якой мае адбыцца плебісцыт, або выбары ў Сойм, была пашырана на ўсход хоць да граніц, уступленых Польшчы па прэлімінарнаму дагавору з Масквой, а на захадзе дасягала так званай Лініі Кэрзона, больш-менш саўпадаючай з этнаграфічнымі граніцамі паміж Беларусьсю і Польшчай, 2) каб плебісцыт вырашаў пытаньне аб далучэньні ня толькі да Літвы, або Польшчы, а і да Беларусі, 3) каб пры ўсім плебісцыт або выбары ў Сойм адбываліся пры варунках, карысных не для аднэй якой-небудзь нацыянальнасьці, а для усіх нацыянальнасьцяў краю.

**М. К—ч.**

## У чым наша моц?

Нашая слабасьць у нашай цемнаце, несьвядомасьці і нядбайнасьці, — а ў чым-жа наша моц?

Моц наша, вялікая моц, хаваецца ў нашай справядлівасьці і ў нашай простасьці.

Нашыя ідэі, нашыя думкі справядлівыя. Мы нікога ня прымушаем адракацца ад свае нацыі, ад свае моцы, ад свае нацыянальнае вольнасьці. Мы ня вымагаем, каб у Маскве ці ў Варшаве тамтэйшы народ пісаўся ў беларусы, каб ён прасіў Лігу Народаў аб далучэньні яго да нас, да Беларусі. Мы ня йдзём ані туды, ані туды з сваімі парадкамі, з сваею лаянкай і бізуном. Не! ідэя наша справядлівая і мы ня хочам другому таго, чаго не пажадаем сабе

І ў гэтым наша моц,—вялізманная, надзвычайная моц усякае справядлівае ідэі. Падумайце самі: у нашых ворагаў і войска, і грошы, і вялікая арганізаванасьць, а ў нас няма а нічога, апроч нашай духоўнай моцы, нашай справядлівасьці. І вось, дзеля таго ня могуць нас падужаць. Бо з нашага боку праўда. Прыедзе наняты панамі аратар, намаўляе-намаўляе далучацца, каб далучыць нашыя землі да панскае кішані, а пачуе народ адно справядлівае слова ад свайго чалавека, — і прапала дарма ўся брахня аратара. Бо народ чуе, дзе праўда, дзе справядлівасьць, а справядлівасьць гэтая з нашага „простага“, „тутэйшага“, „беларускага“ боку. І як ня круцяць, як ня муцяць, як не карыстаюць з таго, што мы не аднае рэлігіі, і шмат сярод нас цёмных, а нічога ня зробяць. За сотні гадоў рады не далі, то не дадуць і цяпер. Дурны той, хто ймець веры, што ў наш век можна далучыць чужую зямлю і перавярнуць на свой абраз чужы народ. Мінуліся тыя часы. І той, хто цяпер адракаецца ад свае простае мовы неўзабаве дужа-дужа пашкадуець. Моц духоўная пераглецца ў матэрыю і ўсё сатрэць на сваёй дарозе.

Ад чаго-ж залежыць наша справядлівасьць?—Ад нашае простасьці. Ад таго, што сярод „простых“, сярод беларусаў, няма паноў. Бо, гэта панам для гешэфту патрэбны войны, далучэньні чужых земляў і народаў і ўсякі зьдзек і фальш. А просты народ з другім простым народам, заўсёды будуць мець згоду і спакой. Дзякуючы гэтай простасьці, беларускае адраджэньне маець моцны социяльны характар, значыцца яно выключаець усю тую брыду ў жыцьці адраджоных нацый з панамі, якую мы бачым у цяперашні час. Зна-

і кінуў.—Ну, ты,—зьвярнуўся ён да другога, да Панаські Міхасёнка.

— Як здыхаў!—адказаў той.

Уся кляса зарагатала, асабліва дурнаваты Міхалка з трэцяга аддзяленьня. Калі троху сьціхла, вучыцель абвёў вачмі дзяцей, і шмат рук узьнялося ўгару ў знак веданьня. Ен паклікаў тады колькі хлапцоў з трэцяга аддзяленьня і даручыў ім навучыць першагоднікаў, якіх слоў ня трэба казаць, каб не схапіць біркі ў рукі, а сам заняўся тым-жа спосабам з другім і трэцім аддзяленьнем. Бірку аддаў лясьнікоўне за „дабрыдзень“.

Дужа многа прыкрасьцей было ў школе цераз гэтую праклятую бірку, але дзеля таго, што Лявонька, шмат чытаў расейскіх кніжачак, якія куплялі для яго на кірмашах, ён рэдка меў у руках бірку і умеў ад яе збавіцца. Часта навет для забавы ён уводзіў у спакусу тых дубагаловых сваіх таварышоў, якія старанна вучыліся панскай мовы, старанна адвыкалі ад хамскай, але ніяк не маглі навучыцца і адвыкнуць. Дастаўшы наўмысьля бірку, ён туляўся і падслухіваў, як размаўляюць гэткія няшчасныя, рабіў так дзеля таго, каб аддаць бірку к канцу заняткаў самаму заядламу „пану“, каб яго вучыцель пакінуў да цёмнага.

II.

— „Ня дай бог сьвіньні рог, а мужыку панства“ — казалі ў Асмолаве некаторыя бацькі, дачуўшыся ад сваіх дзяцей, як іх муштруе за простую мову новы вучыцель. Ен быў сын незаможнага гаспадара з суседняй парахвіі, і ў настаўнікі папаў, вярнуўшыся з сьвету, дзе навучыўся гаварыць папанску. Адукацыю меў невялікую: царкоўна-прыходзкай школы, але каб быць вучыцелем школы граматы ў той час было даволі і гэтага. Пабыўшы ў Маскве ўсяго толькі два ці тры гады, наш вучыцель, як хлопец зроду здольны, а заядлы быццам сьвяты Іосафат Кунцэвіч, вельмі лёгка няўся панскай гутарцы і цяпер з форсам і смакам вымаўляў сваё: што-ш, уж, как-ста, что-ста“ Не за-тое вінавацілі яго асмолаўцы, што гамоніць папанску і выбівае з іх дзяцей простую мову, бо самі таго хацелі, але за тое, што вельмі задаецца сваім панскім языком і пагарджае кожным, хто ня ўмее зламаць язык паягонаму.

— Как? как? Паўтары яшчо-та раз, ну! — чапіўся ён бывала яшчэ на парозе школы, з самае раніцы, як толькі вучні пачыналі зьбірацца і ў страсе казалі яму няўломнае для іх панскае слова:

— Здрасьцьвіця!

— Уш я-та цібе задам: здрасьцьвіця! Уш я-та цібе научу кгаварыць: здраствуйце!· — накідаўся настаўнік і зараз даваў у рукі бірку.

Той, хто ўчыўся ў асмолаўскай школе граматы за гэтым панам настаўнікам, або гаспадзінам вучыцелем, пеўна, да самае сьмерці будзе ведаць, што за штучка была бірка, яго выдумка. Адно шчасьце, што пажыла яна нядоўга, да Вялікадня ў тым годзе.

Колькі з-за яе пралілося горкіх дзяціных сьлёз, колькі выдзерта віхроў, пабіта рук лінейкамі, намучана бедных кален гарохам і колькі сварак адбылося між самымі блізкімі таварышамі.

Яшчэ ў першым-другім аддзяленьні можна было выкруціцца ад боскай кары. Рэдка заставаліся малыя без абеда з біркаю ў руках за якое-небудзь „дык“, або „няхай“. Але астатні год — прост хоць у пятлю галавою. Здаецца, так стараліся ўсе гаварыць правільна, але кожны-ж божы дзень, у нечых руках заставалася „дудка“, як жартам празывалі бірку. Кожны хацеў збавіцца ад яе і часта лаўкачы, які Лявонька, пушчаліся навет на подлую зраду, або, як цяпер кажуць, на правакацыю. Дастаўшы бірку ў рукі, яны заклікалі ў куток таварыша і наўмысьля пачыналі размаўляць папросту. Не пасьпяваў той, ня сьцяміўшы, сказаць: „добра“ ці „нічога“, ці абы-якое іншае простае слова, як прадацель радасна крычэў!

— Ага, маеш бірку! Ты сказаў „нічога“, а трэба сказаць „нічыво“.

У руках няшчаснага ўжо тырчыла бірка, і яго вучыцель пакідаў у школе да цёмнага.

І панавала над беднымі „простамоўнымі“ дзеткамі страшная бірка, як біч божы. Іншы раз пакараныя вучні з пужлівай пытлівасьцю доўга ўзіраліся на гэты кавалак палкі з усіх бакоў, нічога асаблівага ў ім не знаходзілі, але яшчэ болей набіраліся дурнога ўпуду ў адносінах да яе. Бірка увасобілась у дзяціных думах у розныя страшныя абразы, як грозны бог Іегава ў іудзеяў; яна набралася ў іх ваччу нейкае патаемнасьці, хаваючай за сабою страшныя грымасы нячысьцікаў, лесавікоў, мышэйкаў і розных іншых асоб з нашай міфолёгіі. Меншыя дзеткі прост верылі, што у палцы сядзіць злы дух, запраданы чараўніку-вучыцелю і толькі з няволі, баючыся, датыкаліся да яе, і з агідаю бралі яе ў свае неразумныя ручкі.

І хто-б мог рахаваць, што бірка загіне так-жа неўспадзеўкі, як і звалілася на дзяціныя вучнёўскія галовы; што канец яе будзе бясслаўны, а для настаўніка навет дужа прыкры. Толькі шкода, што загубіўшы бірку, загубіў і свой атэстат аб навуцы Міхалка, дурнаваты хлапец, надта дрэнны, слабы вучань, але добры чалавек і шчыры таварыш. Вучыўся ён, нябога, здаецца, гадоў пяць ці шэсьць, у кожным аддзяленьні седзячы па два гады, а ўсё з-за таго, што ніяк ня мог наламацца „паправільнаму“. Ня дзіва, што выпадалі такія дні, калі бірка не выходзіла з яго рук. Міхалка зрабіўся з-за яе папіхачом навет першагоднікаў, асабліва тых, чые бацькі пабывалі „у сьвеце“, а гэта, значыцца, самых свавольных і зласьлівых дзетак. Навет маленькі Лявонька колькі разоў усунуў вялікаму Міхалцы ў рукі праклятую бірку, пакуль не перавярнуўся, што сьмеху ў гэтай справе зусім мала, бо Міхалка плакаў. Што-ж! ня кожнаму дзіцёнку, як Лявоньцы, могуць прывазіць з кірмашу кніжкі з размалёванай у розныя колеры вокладкай. Але вучнёўская чэрнь гэтага разумець не хацела і сваім рогатам патурала выдумцы настаўніка, калі бедны Міхалка стаяў ля печы на каленях і з біркаю ў руках, як пабожны пан у касьцеле са сьвечкаю. Міхалка быў адзін з сваім горам, і сэрца яго краілася ад крыўды. Бацькі ўдаму і тыя крычэлі на яго, што дрэнна вучыцца, — каб яны самі ведалі, спрабавалі, як гэта лёгка наламацца гаварыць папанску. Толькі адзін абраз, не спачуваючы, не, але разумны стаяў уваччу Міхалцы ў часе яго пакутаў. Гэта быў абраз старога дзядзькі Тамаша, які на зборках зазвычай маўчаў, але заўсёды меў сваю, асобную ад усіхнае думку, едкую і востравумную. Усе мужыкі ведалі, што вучыцель-жа павінен выбіваць з вучняў простую мову і ўсё дурное, на тое-ж ён вучыцель, і толькі дзядзька Тамаш, стоячы збоку, пыхкаючы сваю ўбогую піпку, і паплёвываючы, толькі ён адзін першы здагадаўся іранічна сказаць ці то па адрэсу вучыцеля, ці то па адрэсу яговае навукі.

— Ат! ня дай бог сьвіньні рог, а мужыку панства.

І хоць за ім першым і другія сталі наракаць на новага вучыцеля за яго „сьвецкі форс“ і „надта ўжо панскую“ мову, але толькі тамашовы, дзядзькіны, словы мёдам ляглі на сэрцы ў Міхалкі.

Настаўнік ня любіў Міхалку за тое, што Міхалка не прызнаваў ніякай далікатнасьці ў размове.

Ен так затукаў хлопца, што бедны вучань згубіў надзею здаць экзаменты. На тым грунце і адбыўся бунт, у разультаце якога пагінула бірка. Іначай Міхалка, як думалі ўсе вучні, ніколі-б не адважыўся на падобнае грубіянства.

Пачалося з драбніцы.

— Да сьвіданьня! — казалі вучні, ідучы дамоў. І ў гурбе ціха жартавалі: „Да сьвістаньня“! Таго шэпту настаўнік ня чуў. А Міхалка ці-то жартам, ці то здуру бракнуў пад самым носам вучыцеля: „Да сьняданьня, гаспадзін вучыцель“.

— Застанешся да цёмнага!—зьдзержыў яго настаўнік:—маеш бірку.

— За што? Я ні ў чым не абмыліўся!—стаў хныкаць хлапец. Вучні застанавіліся.

— Ну, йдзі, ды болей ня дурэй, наўзьдзіў зьмякчыўся настаўнік гэтым разам і пусьціў Міхалку.

Як на тое ліха, быццам чорт улез у хлопца. Ен выскачыў з таварышамі на вуліцу, забыўся аддаць бірку, і тут прыставіў яе к лобу, скрывіўся, знамяніта прадставіўшы настаўніка, і паўтарыў словы дзядзькі Тамаша:

— Ня дай бог сьвіньні рог, а мужыку панства.

А не пагледзіў бедны, што ня ў клясе быў настаўнік, а выйшаў сьледам паглядзець, як будуць расходзіцца. Пабачыўшы, як дражніцца нялюбы яму вучань, ён счырванеў прост на каліну, адлі раптам падскочыў да яго і даў моцнага карпня. Міхалка зарыўся носам.

— Давай кніжкі! Давай кніжкі! — хрыпеў настаўнік і выдзіраў кніжкі з яго абпэцканай торбачкі.

Адабраньне кніжак азначала тут самы ганебны абшыд. Кар'ера Міхалкі гінула, стараньне пяцёх гадоў прападалі марна, без аніякага пасьведчаньня. Тады хлапец як-бы здурэў. Схапіўсь на ногі, паставіў бірку на калена і з шалёнай злосьцю пераламіў яе — раз! потым: адзін канец папалам, другі канец папалам. Патрышчыўшы, схапіў кавалкі і кінуў на дрыватоню. Усе скамянелі. А Міхалка заплакаў і пашоў дамоў са школы астатні раз.

І ужо пасьля гэтага настаўнік новай біркі не зрабіў і аб Міхалцы ніколі не спамінаў.

Максім Гарэцкі.

9/XII—20.

# ВАЖНЫЯ НАВІНЫ.

## Аб плебісцыту.

ЖЭНЕВА, 24 сьнежня (Орыент). З Жэневы паведамляюць: у часе перагавораў з кантрольнай камісіяй Лігі Народаў Іонінас патрэбаваў ад Шардыны 1) ўлучэньня ў плебісцытную тэрыторыю Пінска, Слоніма і Ваўкавыска, а таксама далучэньня Вільні; 2) безаадкладнай эвакуацыі польскіх войскаў Жэліговскага; 3) плебісцыта не раней за 8 месяцаў пасьля эвакуацыі і 4) устанаўленьня ў Вільні плебісцытнай камісіі з 5 палякоў і 5 ліцьвіноў.

## Зьезд беларускіх саветау (радау).

На зьезьдзе беларускіх саветаў у Менску было 218 дэлегатаў. Сярод іх 111 беларусаў, 42 маскаўцы, 36 жыдоў, 8 палякоў, 1 ліцьвін, 3 латышы і 1 немец. Партыйная належнасьць дэлегатаў гэткая: 130 камуністаў, 3 кандыдаты ў камуністычную партыю, 17 сымпатыкаў, 23 беспартыйныя, 5 бундаўцаў і 1 беларускі соцыяліст-рэволюцыянер.

## Канада не прызнае Беларусі?

У Бэрлін прыйшлі пісьмы з Антверпэна ад жыдоўскіх эміграntаў, у якіх напісана, што канадскі ўрад не прызнае беларускіх пашпартоў, выдадзеных беларускім консульствам у Бэрліне, і што эміграntаў з гэткімі пашпартамі адсылаюць з Канады назад. У Антверпэне, дзеля гэтага, сярод эміграntаў з беларускімі пашпартамі вялікі пярэпалах.

Ад рэд. У праўдзівасьць падобных вестак верыць ня можна, пакуль няма афіцыяльнага паведамленьня ад беларускага ўраду. Магчыма, што ў Канадзе і не прынялі каго-небудзь з беларускім пашпартам, але не з-за пашпарта, а з-за абы-якой іншай прычыны. Дагэтуль беларускі пашпарт усюдых меў належную сілу.

## Беларускі бальшавіцкі зьезд.

РИГА, 23 сьнежня (Орыент). „Звезда“ падробна апісвае, як зьезд зацьвердзіў мандат для дэлегацыі Савецкай Расеі рабіць перагаворы ад імя Беларусі і ратыфікаваў прадварыцельныя варункі рыжскага міру. Старшыня Кнорынг заявіў, што Польшча ў часе наступленьня пагражала беларускай незалежнасьці, урачыста абвешчанай беларускім ваенрэўкомам. Расея была змушана адступіць Польшчы частку беларускае зямлі, але выбух рэволюцыі ў Польшчы верне Беларусі гэтыя землі.

Як піша „Віленскі Кур'ер“ у № 429, надоячы зачыніўся зьезд саветаў у Менску, абвесьціўшы незалежнасьць Беларусі на грунце федэрацыі з Савецкай Расеяй. „Дзякуючы дапушчаным прадвыбарным махінацыям, усьцяж да назначэньня дэлегатаў з цэнтра, склад зьезда быў у падаўляючай большасьці з камуністаў, якія паслеухняна прынялі ўсе пастановы, прысланыя з Масквы. Насяленьне Беларусі дэлегатаў зьезда сваімі прадстаўнікамі ня лічыць“.

## Маскоуска-беларуская вайна.

ВАРШАВА, 22 сьнежня (Орыент). Начэю 17—18 сьнежня беларускія аддзелы занялі вёскі Піліповічы, Бучацін, Страхіне і места Семжава. Бальшавікі адступаюць.

## Беларускае паустаньне.

ВАРШАВА, 23 сьнежня. „Белпрэс“ паведамляе: начою 18—19 сьнежня беларускія паўстанцы забралі м. Выжна. 19-га г. м. раніцаю прабіліся скрозь варожы ланцуг і занялі ранейшыя пазыцыі.

## Ліквідацыя партызанау у нэйтральнай паласе.

„Віленскі Кур'ер“ у № 429 піша: „Нам наказуюць з Радашкавіч, што партызанскі беларускі рух у нэйтральнай паласе ліквідаваны бальшавікамі. Перад ліквідацыяй партызанаў з Радашкавіч уцёк да бальшавікоў вахмістр, які служыў у палякоў. Ен пераказаў бальшавікам усё важнае аб партызанскім руху. Пасьля гэтага бальшавіцкае камандаваньне стала вымагаць ад палякоў дазволу увайці ў нэйтральную паласу для ліквідацыі аддзелаў „зялёных“. Іх пусьцілі на 3 дні. Сярод саміх партызанаў знайшлося шмат бальшавіцкіх агентаў, прыймаўшых дзеяльнае ўчасьце ў арганізацыйнай рабоце і падбухторываньні партызанаў на розныя выступы. Большая частка партызанаў уцякла за польскую граніцу, а хто застаўся, тых бальшавікі забралі і павялі. Бальшавікі ў нэйтральнай паласе рэквізыцыяў і зьдзеку не рабілі, але нішчылі і пагналі скаціну й коні ў тых сялян, у якіх былі ў сяміі дэзэртыры, а таксама ў тых, у якіх жылі партызаны.

## „Зяленадубцы“.

ПІНСК, 27 сьнежня (Орыент). Глаўны штаб „Зялёнадубцаў“, беларускіх паўстанцаў, заявіў, што паўстанцы і беларускае сялянства прызнаюць за свайго правадыра ген. Балаховіча, а сваім палітычным прадстаўніцтвам—Беларускі Палітычны Камітэт.

*Ад Рэдакцыі.* Беларускае сялянства мае свой законны ўрад, на чале якога цяпер стаіць Вацлаў Ластоўскі, дык подобныя заявы ня могуць быць ад сялянства.

